# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ



№4 (204)
май 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб'яднанне "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына"

**У НУМАРЫ:**





# АЛЕНА МАКОЎСКАЯ АБРАНАЯ Ў ПРАЎЛЕННЕ ЕЎРАПЕЙСКАЙ ПІСЬМЕННІЦКАЙ РАДЫ

У Рызе падчас Генеральнай асамблеі Еўрапейскай пісьменніцкай рады (European Writers' Council) было абранае новае кіраўніцтва арганізацыі. У склад праўлення ўпершыню за час існавання EWC увайшла прадстаўніца Беларусі – сябра Сакратарыяту ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", кіраўніца ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская.

Прэзідэнтам EWC абраная нямецкая пісьменніца Ніна Георге, аўтарка 26 кніг прозы, у тым ліку бестсэлера "Лавандавы пакой", выкладчыца, сябра рады Нямецкага ПЭН-Клуба.

Еўрапейская пісьменніцкая рада – федэрацыя 44 нацыянальных арганізацый прафесійных пісьменнікаў, літаратурных перакладчыкаў і праектных менеджараў. Яна прадстаўляе больш за 160 тысяч літаратараў з 34 краін Еўропы. Федэрацыя была заснаваная ў 1977 годзе ў Берліне пад назвай Еўрапейскі Пісьменніцкі Кангрэс. З 2010 года існуе пад цяперашняй назвай са штаб-кватэрай у Бруселі, шчыльна супрацоўнічае з культурніцкімі праектамі Еўракамісіі, ЮНЭСКА, Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці пры ААН.

Ад Беларусі з 2010 года правадзейным сябрам EWC з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў. З постсавецкай прасторы ў EWC, акрамя СБП, уваходзяць толькі літаратурныя арганізацыі краін Балтыі.

lit-bel.org

# ДЗМІТРЫЙ ПЛАКС АБРАНЫ Ў ПРАЎЛЕННЕ ШВЕДСКАГА ПЭНА

Сябра Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Беларускага літаратара Дзмітрыя Плакса 16 траўня абралі ў праўленне Шведскага ПЭН-клуба.



Управа МГА ЗБС "Бацькаўшчына" шчыра віншуе шаноўнага спадара Дзмітрыя Плакса! Зычым творчага натхнення і плёну ў працы на новай пасадзе!

Інфармацыйны цэнтр
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны ЗБС “Бацькаўшчына”

# ПРАПАНОВЫ “БАЦЬКАЎШЧЫНЫ” Ў ЗАКАНАДАЎСТВА АДНОСНА БЕЛАРУСАЎ ЗАМЕЖЖА БУДУЦЬ РАЗГЛЕДЖАНЫЯ РАБОЧЫМІ ГРУПАМІ

Яшчэ ў сакавіку мінулага года ЗБС “Бацькаўшчына” на просьбу Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Беларусі падрыхтавала і накіравала дакумент з прапановамі па карэкціроўцы заканадаўства краіны ў сферы адносін з беларусамі замежжа. Прапановы занялі ажно 13 старонак і тычыліся не толькі закона “Аб беларусах замежжа”, але і законаў “Аб сродках масавай інфармацыі”, “Аб грамадзянстве”, статут Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і кодэксы Рэспублікі Беларусь “Аб культуры” і “Аб адукацыі”.

Прапановы былі скіраваныя на пашырэнне супрацоўніцтва з беларускім замежжам у самых розных сферах, прыцягненню эканамічнага і інтэлектуальнага патэнцыялу беларусаў замежжа для ўзбагачэння нацыянальнай эканомікі, навукі, культуры і сацыяльнай сферы, бо сённяшняя практыка стасункаў вельмі часта абмяжоўваецца ўсяго толькі задавальненнем культурніцкіх патрэб дыяспары, і тое, даволі сціпла.

Днямі ЗБС “Бацькаўшчына” атрымала адказ з Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў Рэспублікі Беларусь, з якога вынікае, што:

- прапановы Згуртавання па змяненні Закона Рэспублікі “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь” будуць разгледжаны на пасяджэнні рабочай групы па падрыхтоўцы праекта Закона Рэспублікі Беларусь “Аб змяненні Закона Рэспублікі Беларусь “Аб грамадзянстве Рэспублікі Беларусь”;
- прапановы па карэкціроўцы Кодэкса Рэспублікі Беларусь “Аб культуры” і закона “Аб сродках масавай інфармацыі” будуць разгледжаны пры наступным комплексным змяненні гэтых заканадаўчых актаў.

Што датычыцца перспектываў увядзення ва ўжытак пасведчання “беларуса замежжа”, дакумента, які мог бы, да прыкладу, дазваляць трымальніку карыстацца правам бязвізавага ўезду ў Беларусь, спрошчанай працэдурай рэгістрацыі, атрымліваць ільготны крэдыт для аплаты вышэйшай адукацыі і да т.п.? Нацыянальны цэнтр заканадаўства і прававых даследаванняў лічыць мэтазгодным дадаткова вывучыць меркаванні кампетэнтных органаў адносна магчымасці ўвядзення такога дакумента. Гэта звязана з пазіцыяй Канстытуцыйнага Суда Рэспублікі Беларусь у дачыненні да закону Рэспублікі Польшча “Аб Карце паляка”. Паводле яе прадстаўленне ільгот і прывілеяў замежным грамадзянам – уладальнікам “карты паляка” супярэчыць палажэнням шэрагу міжнародных дагавораў і агульнапрызнаным прынцыпам міжнароднага права.

Адметна, што, паводле адказу Нацыянальнага цэнтра заканадаўства і прававых даследаванняў, з 23-х дзяржаўных органаў і іншых арганізацый Рэспублікі Беларусь пераважная большасць адрасатаў, у тым ліку МЗС, паведамілі аб адсутнасці прапаноў па змяненні Закону, і асноўная маса заўваг па карэкціроўцы заканадаўства паступіла ад “Бацькаўшчыны”.

**Інфармацыйны цэнтр МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

“Маё права”

# “ГРАМАДСТВА НЕ ГАТОВАЕ АДПУСЦІЦЬ СВАЁ “ПРАВА НА ГВАЛТ”

Кампанія “Будзьма беларусамі!” сустрэлася з паэткай, аўтаркай кнігі вершаў “Homo” Крысцінай Бандурынай, каб паразмаўляць пра хатні гвалт і творчасць як спробу вяртання да звычайнага жыцця.




### Пра гвалт ва ўласным жыцці

На жаль, я хіба не памятаю перыядаў, калі гвалту не было. Калі быў жывы бацька, ён, як шмат хто з беларусаў, быў “неабыякавы” да алкаголю, і з часам нейкая ягоная чалавечая сутнасць пачала сыходзіць. У яго была фізічная патрэба на кімсьці спаганяць злосць, і нагоды гэтую патрэбу задаволіць прыдумляліся на роўным месцы: быццам я скрала ў яго грошы ці выліла ягоную чарговую порцыю таннага ягаднага віна.

Не ведаю, што было цяжэй – эмацыйны гвалт ці фізічны. У пэўны момант асоба ад цела аддзяляецца. Гэты чалавек ператвараўся ў істоту, якая некалькі дзён за сабой не сачыла, у брудной вопратцы, з невыносным пахам. І ад гэтага нават больш балюча, чым ад пабояў. Гэты перыяд скончыўся літаральна тры гады таму, але адчуванні дагэтуль вельмі жывыя, асабліва начамі, калі немагчыма кантраляваць тое, што прыходзіць у снах. Дзве трацінкі маёй кнігі – пра гэтыя складаныя стасункі.

### Пра закон супраць хатняга гвалту і “традыцыі”

Я разумею, што мая сітуацыя не ўнікальная, але пасля дыскусіі ў грамадстве пра закон супраць хатняга гвалту я зразумела, што маштабы праблемы проста катастрафічныя, як ні банальна тое гучыць.

Так атрымалася, што гвалт ператвараецца ў традыцыю: калі нас білі, то натуральная рэакцыя – біць у адказ, біць увогуле. Складана зрабіць іншы выбар, пайсці іншым шляхам, вырашыць “я не буду працягваць гэтую традыцыю”, асабліва калі гвалт дазваляецца на афіцыйным узроўні. Ведаеце ж, як адзін вядомы дзеяч сказаў, што ён “таксама біў, і нічога”. Наша грамадства пакуль не гатовае адпусціць сваё “права на гвалт”.

### Як супрацьстаяць

Напэўна залячыць раны і вярнуцца да нетраўмаванага жыцця ў мяне не атрымаецца – гэта будзе са мной ўсё жыццё. Можна паспрабаваць “панізіць градус”. Я не ведаю, як жывуць у буйных гарадах, у маім родным Мазыры гэтую сітуацыю з гвалтам успрымалі ўсюды як “людзі так жывуць”, і складана зразумець, што так быць не павінна. Я была вельмі закрытым падлеткам, у мяне амаль не было сяброў, не было каму расказаць пра тое, што са мной адбываецца. Я дагэтуль не разумею, чаму маўчалі суседзі, можа, прынцып “хата з краю” і ёсць асноўным у іх жыцці, але калі пакутуюць дзеці, не можа быць чужога гора.

У пэўны момант я зразумела, што не магу больш трываць, і калі мама не можа даць адпор, гэта мусіць зрабіць нехта іншы. Калі я ўпершыню адказала на ўдар, маё дзяцінства скончылася. Даходзіла нават да таго, што я прачыналася і разумела, што ў мяне ў руках нож.

Усё гэта бачыла мама, бачылі малодшыя браты, але яны не ўсведамлялі гэтую сітуацыю як праблему.

### Пра творчасць

Калі сыходзіць агрэсар, застаешся толькі ты і твой страх – усе ўспаміны. Я спрабавала размаўляць з псіхолагамі, гэта не так лёгка насамрэч. Мне стала лягчэй, калі пачала пісаць. Я не хавалася за героямі, напэўна, у мяне няма ніводнага мастацкага тэксту. Гэта як пост з фэйсбука, толькі ў іншай форме.

Пачала ездзіць па гарадах, чытаць вершы дзецям і дарослым, расказваць, як і чаму гэта ўсё пісалася. Людзі прыходзяць, каб хаця б пачуць, што праблема прамаўляецца, што ты не адзін такі, што нехта не будзе пра гэта маўчаць. Некаторыя слухачы падыходзяць пасля імпрэз паразмаўляць прыватна. І я ніколі не адмаўляю, бо ведаю, што чалавеку стане лягчэй. Я сама маю не самую лёгкую гісторыю, але мне падаецца, што я ніколі не змагу абстрагавацца ад таго, што мне расказваюць: кожная гісторыя б'е па свядомасці, даводзіцца доўга “адыходзіць”.

### Пра хатні і сэксуальны гвалт

Калі чалавек дазваляе сабе гвалт у дачыненні да іншага чалавека, узнікае пытанне, ці ёсць у гэтым чалавеку чалавек. З сітуацыі трэба выбірацца любымі магчымымі сродкамі, пакуль агрэсіўнае стварэнне не забіла чалавека ў табе. Камусьці можа дапамагчы творчасць, але яна не ёсць універсальным сродкам. Ніхто не ведае, што можа дапамагчы вярнуцца да нармальнага жыцця. Можа дапамагчы і псіхатэрапія. Рэч не ў метадах: нам усім не хапае любові і крыніцы, дзе гэтую любоў браць.

У мяне ёсць патрэба аддаваць, магчыма, праз гэта працуе механізм, калі я магу прачытаць-расказаць-выслухаць, і мне самой робіцца нашмат прасцей. Але ёсць нейкі рэфлекс, калі ты думаеш, што за ўсё добрае трэба плаціць. Любыя не негатыўныя пачуцці мусяць вымагаць нейкай аплаты. З гэтага, дарэчы, вынікае складанасць са стасункамі, гэта праблема сэксуальнага гвалту, калі тваё цела расцэньваецца як тавар.

У мяне быў толькі адзін ці два выпадкі стасункаў з мужчынамі, калі гвалту не было. Мне не хапае ні смеласці, ні таленту, каб пра гэта пісаць, я спрабавала апісаць гэты досвед у прозе, але моўны апарат не настолькі прыстасаваны, каб размаўляць пра гэта і сказаць так, каб яно не было бяздушным і жорсткім. Калі знойдуцца сілы, напішу пра сэксуальны гвалт. Спадзяюся, не перастану пісаць увогуле – пра гэтыя праблемы і так мала гавораць. Апроч майго досведу ёсць яшчэ гісторыі, якія я чую і назіраю. Ды і жыццё досведу можа падкінуць заўжды.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

навіны “Будзьма беларусамі!”

# ЯК АДКРЫВАЛІ ЛІТАРАТУРНУЮ ГАСЦЁЎНЮ “БУДЗЬМА З КНІГАЙ!”

18 траўня, адбылося ўрачыстае адкрыццё літаратурнай гасцёўні “Будзьма з кнігай!” у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры. Літаратурная гасцёўня – гэта супольны праект Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына”, Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры і Саюза беларускіх пісьменнікаў.




Асноўная мэтага гэтага праекту – стварэнне прасторы, дзе сучасная беларуская кніга будзе ў пашане. Гэта месца, дзе можна ладзіць прэзентацыі новых кніг, сяброўскія чытанні, сустрэчы з аматарамі літаратуры, майстар-класы, паэтычныя і празаічныя батлы. Таксама плануецца ўсталяваць зваротную сувязь, праз якую чытачы змогуць задаваць творцам свае пытанні, запрашаць на сустрэчы, дзяліцца ўражаннямі ад прачытанага.

У падзяку Дзяржаўнаму музею гісторыі беларускай літаратуры за цудоўную пляцоўку творцы падарылі ўнікальны культурны артэфакт – радно, якое сшывалася непасрэдна падчас адкрыцця гасцёўні з кавалкаў, на якіх сучасныя творцы пакінулі свае аўтографы і пасланні да чытачоў.

Там, дзе гучыць паэтычнае слова, нельга абыйсціся і без музыкі! Выканаўца ўласных песень, паэт, перакладчык Алесь Камоцкі парадаваў гасцей прыгожымі спевамі пад гітару.

budzma.by

# ЯК “БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!” КЕРАМІЧНЫЯ ЎПРЫГОЖАННІ РАБІЦЬ ВУЧЫЛА

“Хачу зрабіць суперскую рэч для школьнай выставы”, – заявіў на самым пачатку Міша, адзін з удзельнікаў майстар-класа па вырабе керамічных упрыгожанняў ад кампаніі “Будзьма беларусамі!” і Музея гісторыі беларускай літаратуры. Гэта было першым мерапрыемствам з цыклу “Беларускія рамёствы. Традыцыі і сучаснасць”.




“Я разлічвала, што прыйдуць маладыя дзяўчаты, каб навучыцца рабіць стылёвыя ўпрыгожанні, а ў нас два хлопчыкі ёсць. Хлопцы, чаго вы прыйшлі? – пажартавала мастак-керамiст Наталля Цэван, якая праводзіла майстар-клас.

Як высветлілася, Міша прыйшоў, каб скарыць аднакласнікаў і журы школьнага конкурсу, стварыўшы незвычайную рэч з керамікі. А Марына прыйшла проста каб расслабіцца, адпачыць і прыемна прабавіць час разам са сваёй унучкай Алісай. Нехта прыйшоў, каб даведацца, як гэта – ляпіць з гліны, а хтосьці сапраўды захацеў паспрабаваць навучыцца рабіць керамічныя ўпрыгожанні.

“Марына, гладзьце гліну, гладзьце, рэлаксуйце, – жартам заахвочвала яе Наталля. – Вы ведаеце, лепка з гліны – гэта адзін з відаў арт-тэрапіі, як і валянне з воўны, і маляванне, якія дазваляе праз працу з матэрыялам, тактыльныя адчуванні пазбавіцца негатыўных эмоцый. Так што расслабляйцеся, карыстайцеся момантам!”



Для ўдзельнікаў майстар-класа нечаканымі аказаліся многія факты пра гліну, якімі падзялілася Наталля: “Гліна традыцыйна выкарыстоўваецца з даўніх-даўніх часоў практычна па ўсім свеце. Гэта сапраўды ўнікальны матэрыял: з аднаго боку, вельмі просты, а з іншага – усе ўласцівасці гліны і дакладны яе склад дагэтуль да канца не вывучаныя. З гліны зроблены практычна ўвесь посуд, якім мы карыстаемся. Яна выкарыстоўваецца і ў медыцыне, і ў касметалогіі, і ў будаўніцтве. У старажытнасці, яшчэ да нашай эры, з гліны будавалі дамы і нават цэлыя гарады. Украінскія традыцыйныя хаты, да прыкладу, таксама былі гліпянымі. І сёння, нягледзячы на безліч сучасных матэрыялаў і тэхналогій, на дамах робяць керамічную дахоўку. Ёсць нават гліна, якую ўжываюць у ежу. У вельмі многіх культурах у нацыянальнай кухні ёсць стравы з выкарыстаннем гліны. Такі просты, здавалася б, матэрыял у свой час каштаваў даражэй за золата. Размова ідзе пра кітайскі фарфор, які таксама фактычна ёсць адным з відаў гліны і рэцэпты вырабу якога вельмі доўгі час трымаліся ў сакрэце”.

Мастачка прапанавала наведнікам зрабіць на выбар керамічную брошку, каралі, завушніцы або магнічік на лядоўню. Мерапрыемства праходзіла ў вельмі ўтульнай, хатняй атмасферы, і многія ўдзельнікі паспелі зрабіць не адзін, а адразу некалькі вырабаў. Наталля распавяла пра фурнітуру, якая выкарыстоўваецца для стварэння ўпрыгожанняў, і падзялілася ідэямі пра тое, як можна ствараць стылёвыя ўпрыгожанні з розных матэрыялаў, не толькі керамікі.

budzma.by

навіны

# Юрась Шамецька: "Каб хто сказаў, што праз 20 гадоў людзі ў Мінску збяруцца слухаць мае беларускія вершы, моцна б здзівіўся"

Прэзентацыя паэтычнай кнігі "Непрадказальнае" беларускамоўнага паэта з Канады Юрася Шамецькі, арганізаваная ЗБС "Бацькаўшчына" і Дзяржаўным музеем гісторыі беларускай літаратуры, сабрала поўную залу.

Канадскі праграміст Юрась Шамецька – рэдкі і чаканы госць у Беларусі. Мяркуючы па яго аповедах, менавіта расстанне з Беларуссю, якое адбылося ў 1997 годзе, зрабіла з яго не проста паэта, а паэта беларускамоўнага. Гэтая метамарфоза была такой яркай, што не прайшла незаўважанай паўз колы аматараў прыгожага беларускага слова. Прычым не толькі з шэрагаў беларускай грамады ў Атаве, у жыцці і справах якой паэт бярэ вельмі актыўны ўдзел, а і ў Беларусі.

Як і два гады таму, спадар Юрась прыехаў у адведкі на радзіму не з пустымі рукамі – з новай паэтычнай кнігай "Непрадказальнае", што выйшла ў выдавецтве "Кнігазбор". Зала Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры ледзь змясціла ўсіх ахвотных далучыцца да адметнасцяў паэзіі Юрася Шамецькі – падарожжаў па "беларускім космасе" аўтара, утульнай прасторы, дзе сцёртыя межы паміж мінуўшчынай аўтарскіх успамінаў і нашай агульнай сучаснасцю, паміж Мінскам і Атавай, залівам Пегі на ўсходзе Канады і мінскім раёнам "Шары".

На пачатку імпрэзы кіраўніца Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская ў сваёй прамове падкрэсліла, што спадар Юрась не толькі паэт, а і актыўны сябра аднай з найстарэйшых грамадскіх арганізацый беларусаў – Згуртавання беларусаў Канады, што ў гэтым годзе мае 70-гадовы юбілей. Распавёўшы пра грамадскую, культурную і навуковую дзейнасць ЗБК, яна падзялілася гісторыяй пра тое, як яны разам з іншай кіраўніцай "Бацькаўшчыны" Нінай Шыдлоўскай, якая таксама брала ўдзел у імпрэзе, мелі гонар і радасць асабіста пазнаёміцца і пасябраваць з паэтам. Адбылося гэта падчас буйнога мерапрыемства, зладжанага заакіянскай беларускай грамадой – 32-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі.

Дырэктар музея Міхаіл Рыбакоў у сваёй прамове расказаў аб праекце "Збіраем беларускую літаратуру разам", у рамках якога праходзіла імпрэза. Ён падкрэсліў, што беларусы, якія жывуць па-за межамі сваёй айчыны, аказваюць вельмі істотны ўплыў на імідж Беларусі ў вачах замежнікаў, і рэалізацыя такога праекту дазваляе адначасова аддзячыць ім, пашырыць і ўзбагаціць сучасную культуру краіны, а таксама падарыць тутэйшым беларусам вельмі важнае адчуванне еднасці з замежнымі суродзічамі.

Віталі паэта і дзяліліся з публікай сваімі вершамі і ягоныя калегі па пяру, майстры слова, сябры Саюза беларускіх пісьменнікаў Анатоль Івашчанка і Аксана Данільчык, якая, між іншага, прызналася ў сваім даўнім завочным знаёмстве з Юрасём Шамецькам праз блог-платформу Livejournal.

Літаратурная рэдактарка кнігі Вікторыя Трэнас апавяла кранальную гісторыю пра тое, як упершыню пазнаёмілася з паэзіяй спадара Юрася Шамецькі, калі працавала ў часопісе "Маладосць". Вершы трапілі ў рэдакцыю разам з папяровым лістом і былі адразу прынятыя да публікацыі.

"Паэтычныя чытанні" былі шчодра разбаўленыя музычнымі нумарамі. Андрусь Такінданг і Ігар Асідчанка ў дуэце ўзмацнялі радасны настрой публікі забаўнымі песнямі, а музыка Юрый Несцярэнка паклаў на музыку некалькі вершаў Юрася Шамецькі і выканаў перад прысутнымі пад гітару новаствораныя песні.

Вядома, шмат сваіх вершаў прачытаў і сам спадар Юрась. А таксама шчодра і непасрэдна дзяліўся ўспамінамі пра свае рускамоўныя паэтычныя спробы часоў студэнцтва (шчыра не раючы шукаць тыя вершы), беларускае жыццё часоў нацыянальнага адраджэння, побытавыя прычыны ад'езду ў Канаду, уражанні ад вандровак і шмат што іншае.

"У жыцці шмат непрадказальнага. Каб мне па прыездзе ў Канаду хто сказаў, што праз дваццаць гадоў буду ў Мінску чытаць перад публікай свае вершы на беларускай мове... то мо-о-оцна б здзівіўся", – прызнаўся ён напрыканцы.

І зрабіў шчыры падарунак Згуртаванню "Бацькаўшчына", ахвяраваўшы на нашу дзейнасць усе грошы, атрыманыя з продажу кнігі (па метадзе "колькі хто ахвяруе"), якія тут жа ахвотна падпісваў сваім прыхільнікам.

Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

# "Хай шчаслівы ўсе будуць на зямлі"

25 мая ў Мінску, у Траецкім прадмесці, у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры, адбылася прэзентацыя кампакт-дыска "Хай шчаслівы ўсе будуць на зямлі" з песнямі ў выкананні саліста Сяргея Шабадалава (Вісагінас).

На кампакт-дыску 16 беларускіх песень на словы і пераклады Станіслава Валодзькі, сябра Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" (Латвія): "Ода Беларусі" (муз. Сяргея Ціханава); "Рабіны" (муз. Дзмітрыя Пятровіча); "Ветэраны", "Калыханка для мамы", "Чаромха" (муз. Міколы Яцкова); "Ручнік", "Наш масток", "Касцёр для дваіх" (муз. Альберта Белуся); "Сустракай, Беларусь!", "Позірк Еўфрасінні", "Матулін пірог" (муз. Анатоля Мядзведзева); "Беларускі дом", "Эх, сена духмянае!" (муз. Аляксандра Рудзя); "Галіна" (муз. і сл. Алены Васілёк); "Без адпачынку" (муз. Севярына Краеўскага, сл. Агнешкі Асецкай); "Гасподзь благаславіў" (муз. і сл. Анатоля Рубінава).

Дэлегацыю з Літвы і Латвіі ў складзе Сяргея і Вольгі Шабадалавых і Станіслава і Вольгі Валодзькаў гасцінна сустракалі супрацоўнікі музея на чале з дырэктарам Міхаілам Рыбаковым. Гасцей пазнаёмілі з экспазіцыямі музея, а затым Сяргей Шабадалаў выканаў песні з прэзентуемага кампакт-дыска. Напрыканцы канцэрта ён праспяваў песню "Белая Ружа Сусвету" (муз. Алены Пішчыкене, сл. Івана Ждановіча). "Гэтая песня пакладзе пачатак новаму дыску з песнямі ў маім выкананні", – паведаміў спявак.

Станіслаў Валодзька прачытаў свой верш "Пявуння" і пераклад на беларускую мову літоўскай народнай песні "Як многа песень..." і падарыў у фонды музея свае кнігі і некалькі нумароў газет "Прамень" і "Уздым". А ўсе, хто быў у залі, атрымалі кампакт-дыск у падарунак.

З цёплымі словамі прывітання да прысутных звярнуліся дырэктар музея Міхаіл Рыбакоў, беларускі грамадскі дзеяч Лявон Целеш, паэт і кампазітар Дзмітрый Пятровіч, паэтэса Алена Басікірская, а таксама Галіна Паўлава і Ала Сяліцкая. Святам паэзіі, песні і беларускай мовы назваў гэта мерапрыемства Л. Целеш.

Выказваем падзяку Генеральнаму консульству Рэспублікі Беларусь у Даўгаўпілсе за спрыянне ў здзяйсненні гэтай паездкі.

Беларускае культурна-асветніцкае таварыства "Уздым"

гутарка

# Ян Гардзееў: "Галеча з папулярнай гісторыяй у Беларусі – гэта бяда"

Ці ёсць на Захадзе "закрытыя" архівы? Ці ёсць там ідэалагічны прэсінг на гістарычную навуку? Чаму ў Беларусі мы цешымся з'яўленню глянцавай "Нашай гісторыі", а ў Польшчы ўжо даўным-даўно пры кожнай газеце выходзіць свой папулярны гістарычны дадатак?

Наш суразмоўца – Ян Гардзееў, патомны беларускі гісторык, які жыве і працягвае вучобу ў Польшчы. Яну 24 гады, з якіх 22 ён пражыў у Кракаве, але працягвае лічыць сябе гарадзенцам і любіць дадаваць: "Гэта мой горад! А вы тут хто?.." У Горадню разам з тым прыязджае рэгулярна, каб працаваць у архівах.



### Бацька і дзед не паўплывалі

Мой дзед і бацька – вядомыя ў сваіх колах гісторыкі (гаворка пра Івана Коўкеля і Юрыя Гардзеева – *аўт.*). Разам з тым ні дзед, ні бацька не змушалі. Мне сказалі, што я маю свабодны выбар. Пайшоў на гісторыю, бо цікавіўся ёю з дзяцінства – вось і ўсё.

### Архівы – найбольш практычна для гісторыка

Я вучуся ў Ягелонскім універсітэце ў інстытуце гісторыі. Там тры спецыялізацыі: педагогіка, антрапалогія і архівістыка. Апошнюю я палічыў найбольш практычнай для гісторыка. Архівіст – гэта дадатковая спецыялізацыя, дапамагае навучыцца працаваць у архівах, каб ведаць, дзе шукаць, як правільна карыстацца дакументамі, чытаць. Пасля трох гадоў вучобы абараніўся і атрымаў бакалаўра, у гэтым годзе планую атрымаць магістра.

### Архівы ў Польшчы больш дасяжныя

У кожнай краіне ёсць з розных прычын "закрытыя" архівы, не толькі ў Беларусі. Класічны прыклад – гэта Ватыкан, дзе можна карыстацца толькі дакументамі старэйшымі за 100 гадоў. Але агулам і ў Польшчы, і на Захадзе архівы больш дасяжныя. І не толькі таму, што туды можна зайсці. Там, напрыклад, можна фатаграфаваць дакументы, а не толькі замаўляць сканы і ксераксы, як у Беларусі. Зручна ж: сфатаграфаваў і пайшоў дадому расчытваць.

### Архівы КДБ Латвіі адкрываюць толькі сёлета

Накont архіваў службаў бяспекі не хачу хлусіць, з імі ў Польшчы я асабіста не працаваў. Разам з тым з'яўляецца маса гістарычных публікацый, заснаваных на гэтых архівах, таму працаваць з імі можна. Кейс з архівамі спецслужбаў – праблема постсавецкіх краін. У той жа Латвіі з таго, што чуў, толькі ў гэтым годзе збіраюцца адкрываць архівы КДБ. Што пра Беларусь казаць?..

### Не чуў, каб загадвалі пісаць у "правільным" ключы

Ясна, фактар ідэалогіі ў гісторыі ёсць паўсюдна. Але я не чуў пра пастаянны прэсінг ідэалогіі зверху, каб нехта загадваў пісаць у "правільным" ключы. Проста ёсць розныя навукоўцы са сваімі поглядамі, якія дыскутуюць паміж сабой. У Беларусі цалкам іншая сітуацыя: ёсць праўладная постсавецкая плынь, ёсць заходнерусісцкая, ёсць нацыянальная… Пры гэтым калі ты бярэш "нязручную" паводле ідэалогіі тэму для працы (напрыклад, войны ВКЛ з Масковіяй) – не факт, што з ёй абаронішся. Для Польшчы гэта нонсэнс.

### Буры, кан'юнктура і фінансавы прэсінг

Ёсць, вядома, гісторыя з Бурым (камандзір АК, які забіваў мірнае беларускае насельніцтва – аўт.), якога пракуратура спачатку прызнала злачынцам, пасля – апраўдала. Кіруючая партыя ў Польшчы юрыдычна не мае ўплыву на такія рашэнні, але застаецца фактар кан'юнктуры. То бок прэсінг не ідэалагічны, але фінансавы. Напрыклад, ці падтрымаюць вашы даследаванні альбо інстытут?.. Інстытут нацыянальнай памяці (IPN), які робіць безліч праектаў, як у плане навукі, так і ў плане папулярызацыі (коміксы, календары і г.д.) таксама зацікаўлены ў фінансаванні – так ёсць.

### "А, нейкі там настаўнік…"

Калі ты атрымаў спецыяльнасць гісторыка – гэта не значыць, што пойдзеш абавязкова выкладчыкам у школу ці ВНУ. Шмат людзей працуюць у вялікіх фірмах, карпарацыях, менеджменце. Агульнаеўрапейская тэндэнцыя: гісторыкі ідуць у палітыку ды спецслужбы. Мне здаецца, што стаўленне да інтэлігенцыі ў Польшчы лепшае, статус больш высокі. Там не пачуеш, як у Беларусі, грэблівапаблажлівага: "А, нейкі там настаўнік…"

### Папулярныя гістарычныя часопісы: канкурэнцыя і выбар

Рэгулярна заходжу ў кнігарні Кракава, калі бываю тут – то і ў Горадні. У Польшчы адназначна больш аб'ём гістарычнай літаратуры. Непараўнальна больш. Можна казаць пра іншы ўзровень падтрымкі, розную колькасць насельніцтва… але гаворка таксама і пра якасць! І тут я кажу не толькі пра манаграфіі, але і пра папулярныя выданні.

У Польшчы папулярныя гістарычныя часопісы выдае ў якасці дадатку кожная больш-менш сур'ёзная газета. Ёсць канкурэнцыя, выбар, праваскіраваныя і леваскіраваныя ў плане поглядаў… У Беларусі ж зусім нядаўна з'явілася "Наша гісторыя" – пакуль адзіны аналаг. Маем што маем.

### Сталін, НЛА, з кім спала Кацярына ІІ…

Разам з тым у шапіках Беларусі можна ўбачыць безліч замежных, то бок расійскіх, гістарычных часопісаў. Дастаткова глянуць на вокладку, каб зразумець узровень: Сталін, НЛА, з кім спала Кацярына ІІ… Усё ясна. І для мяне гэта балючае пытанне. Прадукт атрымліваецца і чужы ментальна, і няякасны. Што ў чалавека ў галаве застанецца? Добра, каб у Беларусі хаця б на дзяржаўным узроўні нейкія аналагі выдавалі, каб збалансаваць рынак.

### Тэўтонскі ордэн, які нас "вызваляў"

Памятаю, бацька чытаў "Спадчыну", "Беларускі гістарычны часопіс". Але яны зніклі! Можа, фінансаванне не было альбо добрага маркетынгу. Такая вось галеча ў плане папулярнай гісторыі – гэта бяда. Людзі будуць чытаць чужое, памяць будзе чужая выбудоўвацца. Маўляў, "мы ваявалі з ВКЛ, якое было нашай дзяржавай…" – абсурд. Гэта ж тое самае, каб у нас прадаваліся часопісы, якія распісваюць падзеі часоў Вітаўта з пункту гледжання Тэўтонскага ордэна, які нас "вызваляў" ад прыгнёту балтаў-паганцаў.

### Праца ў сацсетках – інвестыцыя ў беларускасць

Іншая рэч, што на двары ўжо XXI ст., і папяровы часопіс – далёка не самы модны трэнд. З гэтым мы ўжо моцна спазніліся. Цяпер час сацсетак, ролікаў на Youtube ды мемаў. Я таксама гэтым займаюся: больш за 5 гадоў рабіў гістарычныя допісы на масавай гарадзенскай платформе ў "Вконтакте". Зараз працягваю тое самае ў адной папулярнай агульнабеларускай суполцы. Часу ў мяне ўсё меней, але такую працу я лічу добрай інвестыцыяй у беларускасць.

### Папулярная і акадэмічная гісторыя – што важнейшае?

Увогуле, нельга супрацьпастаўляць папулярную гісторыю і акадэмічную. Адно не мае перашкаджаць іншаму, наадварот – спрыяць. Гісторыя як навука мае ісці сваім шляхам сур'ёзных даследаванняў. Папулярная плынь мае на яе абапірацца, чэрпаць веды ды пераказваць факты звычайным людзям на простай мове.

Спрашчэнне ў дадзеным выпадку – не прыніжэнне. Аўтамеханік не абавязаны ведаць тэрміны ці ўмець чытаць летапісы на мёртвых мовах, а вось ведаць сваю гісторыю павінен. Роўна як і гісторык не мае быць карыфеем у аўтамеханіцы, але ж павінен ездзіць на аўто з тэхаглядам, правільна?

### Каша ў галовах у плане гісторыі: беларусы нікому не вераць

Не думаю, што беларусы – нейкая агістарычная нацыя, якая адмаўляе і забываецца на мінулае. Іншая рэч, што ў Польшчы сама гістарычная памяць больш сістэмная і развітая. Яна развівалася паралельна з нацыятворчым працэсам, якія ў нас замарудзіліся. Скажам, у міжваенны час беларусы не мелі сваёй дзяржавы, як палякі ці латышы. Значыць, не вырасла пакаленне, якое ведала: "Мая краіна, мае межы, мая гісторыя".

Уявіце, якая каша была ў галовах беларусаў у ХХ стагоддзі: у школу хадзілі да 1939-га пры Польшчы ці ў БССР, пасля немцы, пасля зноў Саюз, пасля незалежнасць, пасля зноўку згортванне нацыянальнага дыскурсу… У галовах пасля такія кульбіты нараджаюцца, што цяжка ўявіць. А калі растлумачыш – нехта пачуе, а нехта не паверыць, бо яму ўжо столькі разоў за жыццё давалі розную інфармацыю, што чалавек заблытаўся.

### Мне кажуць: "Пачакай трохі…"

Ці збіраюся я вяртацца? Ёсць план больш рамантычны, ёсць – больш прагматычны. Згодна з апошнім, для беларускай навукі магу зрабіць цяпер больш у Польшчы, чым тут. І гэта не мая думка, мне кажуць: "Пачакай трохі…" Рэч жа нават не ў эканоміцы, а ў стаўленні дзяржавы да роднай гісторыі, да нацыятворчых працэсаў. Калі ў Польшчы скажаш: "Niech żyje Polska!" – табе дзяржава папляскае ў далоні. У Францыі: "Vive la France!" – тое самае. А ў Беларусі гукнеш: "Жыве Беларусь" – рэакцыя можа быць як мінімум двякай…

Алесь Кіркевіч, budzma.by

навіны

# "ЁН МОГ ПЕРАТВАРЫЦЬ АПОВЕД ПРА СЛОВАЎТВАРЭННЕ Ў ФЕЕРЫЮ"

У Мінску прэзентавалі пасмяротную кнігу Змітра Саўкі "Беларуская цывілізацыя ў Амерыцы".

"Вельмі важна, што гэтая імпрэза адбываецца ў музеі Максіма Багдановіча, – кажа даследчыца беларускай эміграцыі Наталля Гардзіенка. – Чатыры гады таму тут ладзілася апошняе мерапрыемства, прысвечанае эмігранцкай літаратуры, і Зміцер Саўка выступаў на ім".

"Для нас вельмі важна, што кніга выйшла ў нашай серыі, – кажа кіраўніца Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" Алена Макоўская. – Зміцер пачаў працаваць над кнігай у 1997 годзе па просьбе Беларуска-амерыканскага задзіночання. Але ўвесь час дапаўняў тэкст, дапрацоўваў яго – быў сапраўдным перфекцыяністам. Цяпер мы маем кнігу на 600 старонак – 50-гадовы летапіс арганізацыі, якая запачаткавала "беларускі свет" і сябры якой у часы "жалезнай заслоны" з надзеяй глядзелі на Беларусь".

На прэзентацыі сабраліся шматлікія сябры і паплечнікі Змітра Саўкі.

"Шкада, што ў беларускім грамадстве няма пераемнасці пакаленняў, – кажа мастак Артур Клінаў, школьны сябра Змітра. – Нашае грамадства нагадвае пясочны гадзіннік: прайшло адно пакаленне і знікла разам са сваімі героямі. На маю думку, Зміцер мусіў быць адным з такіх флагманаў уласнага пакалення, мусіў мець сваю школу і вучняў. Я называў яго акадэмікам, бо пры іншай сітуацыі ў краіне Зміцер меў бы гэты статус".

Калега Змітра Саўкі па Лінгвістычным універсітэце Вольга Калацкая згадвае, як яго "сышлі" з універсітэта за "прагулы", якіх не было. Спадару Саўку давялося дасылаць заяву "па ўласным" факсам з Нью-Ёрка.

"Ён быў фанатыкам сваёй справы, – кажа спадарыня Вольга. – Калі нехта яго "чапляў" па пытаннях класічнага беларускага правапісу, Зміцер грымеў на ўвесь квартал".

"Зміцер змог растрэсці гэты Лінгвістычны, у якім беларушчынай і не пахла ніколі, – расказвае паплечніца Саўкі Вольга Барысенка. – Столькі студэнтаў дзякуючы яму захапілася беларускай ідэяй. Ён умеў расказваць пра словаўтварэнне так, што гэта ператваралася ў феерыю. Умеў з глабальнага зрабіць звычайнае і ўбачыць у будзённым важнае. Калі казаць пра ўласную школу, то ў Змітра яна ёсць – нашыя студэнты проста ўсюды".

"Выхад кнігі пра Беларуска-амерыканскае задзіночанне – гэта вялікая радасць, асабліва для людзей, якія там апісваюцца, – кажа Ала Кузніцкая. – Калі я пераехала ў Нью-Ёрк, пазнаёмілася з дыяспарай, пачула, што ўсе гэтыя людзі размаўляюць па-беларуску, то адчула, што гэтыя людзі – мая сям'я. Тыя самыя людзі, якіх мы, выкладаючы ў школе, называлі "здраднікамі Радзімы". Для дыяспары кніга Змітра вельмі важная, бо гэтыя людзі жылі і жывуць марамі пра Беларусь, але ўсё адно баяцца, што іх тут лічаць здраднікамі".



"Кніга ўся прасякнутая эмоцыяй, асабістымі адчуваннямі, – кажа мовазнаўца Настасся Мацяш. – Гэта кніга не пра арганізацыю як калектыўную дзейнасць, яна пра асобаў. Гэта людзі моцныя, мэтаскіраваныя, якія пры ўсіх унутраных расколах і падзелах займаюцца неверагоднай па маштабах дзейнасцю – на Беларускі фестываль у Нью-Джэрсі было прададзена 5000 квіткоў, там выступіла 160 артыстаў, спецыяльна для фестывалю была створаная тысяча талерак з Пагоняй".

Мовазнаўца Вінцук Вячорка ўспамінае, як Зміцер Саўка, Артур Клінаў і Лявон Юрэвіч яшчэ ўжо ў 80-я вывучалі заходнебеларускія выданні, фатаграфавалі іх і распаўсюджвалі самвыдатам.

"У кніжцы, выхад якой мы сёння адзначаем, ёсць не толькі Зміцер-даследчык, але і Зміцер-лінгвіст, – кажа спадар Вінцук. – Паспеўшы толькі пагартаць яе, я ўжо зрабіў для сябе адкрыццё. Чаму беларуская дыяспара называе Беларусь Бацькаўшчына, а не Радзіма? Бо "Радзіма" ў савецкім сэнсе – гэта СССР, і вяртанне на Радзіму можа быць вяртаннем у Сібір, якая таксама лічыцца часткай Радзімы".

"Са Змітром мы пазнаёміліся ў 90-я, а калі ствараўся "Белсат", я запрасіў яго заняцца моўнай



службай канала, – кажа намеснік дырэктара тэлеканала Аляксей Дзікавіцкі. – Ёсць "наркамаўка", ёсць "тарашкевіца", а мову Змітра мы называем "саўкаўка". І штодня каля мільёна чалавек слухае гэтую мову".

Па словах сына Змітра Саўкі Уладзя, сёлета мусіць выйсці яшчэ адна праца знанага лінгвіста – ягоная дысертацыя.

"Зміцер казаў: "Жыццё даўгое, я ўсё паспею", – кажа Наталля Гардзіенка. – Атрымалася не так. Але ёсць сапраўдны запавет ад Змітра: "Канцэнтруйся і рабі тое, што можаш зрабіць толькі ты".

Таксама падчас прэзентацыі Прэмію БІНІМа за даследаванні і тэксты пра беларускую эміграцыю (якую раней атрымаў Зміцер Саўка) уручылі даследчыку літаратуры Ціхану Чарнякевічу.

**Юрась Ускоў, budzma.by**

# БЕЛАРУСКІЯ НАВУКОЎЦЫ ЎЗЯЛІ ЎДЗЕЛ У МІЖНАРОДНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ Ў НЬЮ-ЁРКУ

Беларускія навукоўцы з Беларусі, Канады і ЗША ўзялі ўдзел ў панэлі кнігі на 24-й штогадовай Сусветнай канвенцыі Асацыяцыі па вывучэнні нацыянальнасцяў, якія праводзяцца ў Інстытуце Гарымана Калумбійскага ўніверсітэта ў Нью-Ёрку, што адбывалася 2-4 мая.

Падставай правядзення панэлі было адлюстраванне габрэяў у сучаснай беларускай літаратуры і апошняя кніга прафесара Універсітэта Ватэрлоа (Канада) Зіны Гімпелевіч.

Навуковая Асацыяцыя па вывучэнні нацыянальнасцяў займаецца прасоўваннем ведаў і разуменнем этнічнасці, этнічных канфліктаў і даследаваннямі нацыяналізму. Яна штогод прыцягвае навукоўцаў, даследчыкаў, палітолагаў і супрацоўнікаў недзяржаўных арганізацый. У працы канвенцыі ў гэтым годзе прынялі ўдзел больш за 150 панэляў.

У працы згаданай панэлі бралі ўдзел прафесар Ала Орса-Рамана – Тэхналагічны каледж Нью-Ёрка, а таксама Віталь Зайка – старшыня беларуска-амерыканскага саюза "Пагоня" і інфармацыйны менеджар Інстытута габрэйскіх даследаванняў у Нью-Ёрку; Марыя Паўла Сурвіла – выканаўчы дырэктар Цэнтра беларускіх даследаванняў, прафесар этнамузыказнаўства ў Вартбургскім каледжы; Веранiка Лапуцька – кандыдат PhD у Польскай акадэміі навук у Варшаве; Томас Э. Бэрд, ганаровы прафесар славістыкі і былы дырэктар Праграмы юдаікі ў Куінс-каледжы.

Кожны ўдзельнік дыскусіі абмеркаваў частку новага тома доктара Зіны Гімпелевіч – магчыма, першага даследавання складу сацыяльных канструктаў паміж габрэйскімі і хрысціянскімі супольнасцямі ў беларускіх землях. Увага ў томе звернута гарманічнае агульнае існаванне дзвюх рэлігійных суполак, у рэзкім кантрасце з іх адносінамі ў іншых краінах Усходняй Еўропы; уплыў габрэяў на хрысціянскіх пісьменнікаў, як ураджэнцаў зямель, і паказ габрэйскіх дзеячаў, як вопытных, разумных і сумленных суседзяў.

**Томас Бэрд, "Наша Ніва"**

навіны

# БЕЛАРУСЫ КАНАДЫ ЗЛАДЗІЛІ ТРАДЫЦЫЙНУЮ ВАНДРОЎКУ ДА БЕЛАРУСКАГА ПАМЯТНАГА КРЫЖА Ў МІДЛАНДЗЕ

1 чэрвеня канадскія беларусы здзейснілі традыцыйнае падарожжа ў мясцовасць Мідланд канадскай правінцыі Антарыя, дзе знаходзіцца Нацыянальная Прошча паўночнаамерыканскіх пакутнікаў.



Святыню, збудаваную у 1926 г., і якая з таго часу знаходзіцца пад апякунствам ордэна езуітаў каталіцкае царквы, штогод наведваюць звыш за 100 000 прадстаўнікоў больш чым 35 розных этнічных і культурных груп Канады. За 93 гады існавання Прошчы пакутнікаў высілкамі шматлікіх нацыянальных грамадскіх і рэлігійных інстытуцый, якія дзейнічаюць у краіне, на 34 гектарах, што яна займае, пабудавана больш за паўсотні крыжоў, алтароў і знакаў памяці важных падзей у гісторыі народаў, прадстаўнікі якіх склалі канадскую нацыю. Тут стаіць і Беларускі Памятны Крыж, узведзены у 1988 г. у гонар 1000-годдзя хрысціянства ў Беларусі.

Дзея ля Беларускага Памятнага Крыжа пачалася з традыцыйнай службы з удзелам Першаіерарха БАПЦ архіепіскапа Святаслава, Айца Аўгена і прыбылага з Беларусі на практыкаванне ў Царкве Святога Кірылы Тураўскага ў Таронта святара БАПЦ іерэя Вячаслава. Падчас багаслужбы архіепіскап Святаслаў неаднаразова звяртаўся да тэмы Курапатаў, узгадваючы варварскае знішчэнне многіх дзясяткаў крыжоў, а таксама выказаў скрайнюю занепакоенасць дзеяннямі беларускіх уладаў у дачыненні да святарства БАПЦ у Менску.

Сакратар Парафіяльнай Рады царквы Св. Кірылы Тураўскага ў Таронта Вольга Манькоўская распавядала пра пераемнасць традыцый у духоўным жыцці канадскіх беларусаў, адной з формаў якой і ёсць штогадовае паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа, святыні нашых суродзічаў на Чужыне. Захаванне традыцый, закладзеных папярэднімі пакаленнямі беларусаў, дапамагае духоўна выжыць сучаснай беларускай эміграцыі ў Канадзе.

Алесь Кот параўнаў дзве сістэмныя формы палітыкі ўладаў у дачыненні да рэлігійных устаноў, што маюць месца ў Канадзе і ў Беларусі. У краіне кляновага ліста беларускае святарства і вернікі самі вырашаюць дзе і якім чынам адпраўляць свае рэлігійныя патрэбы, пад якімі сімваламі праводзіць багаслужбы і якія словы укладаць у малітвы. Рыхтуючыся да вандроўкі да Крыжа мы не звярталіся да канадскіх уладаў па дазвол, не выдаткавалі грошаў на аплату паліцэйскай аховы, не баяліся трымаць у руках незарэгістраваныя ў Канадзе бел-чырвона-белыя сцягі і Пагоню. Адно што пацікавіліся раскладам наведвання прошчы, апублікаваным у бюлетэні мясцовага касцёла. З другога боку, падазронасць уладаў у дачыненні да ўсіх несістэмных грамадскіх і рэлігійных аб’яднанняў, што мае месца ў Беларусі, нацыянальныя сімвалы, аднесеныя ўладаю да разраду варожых, панаванне структур расійскае царквы ў рэлігійнай сферы жыцця беларусаў метраполіі і забарона Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, рэпрэсіі супраць святароў – усё гэта праявы адсутнасці свабоды слова, сходаў і веравызнання. Параўноўваючы “там” і “тут”, Алесь Кот канстатаваў, што за дзесяцігоддзі жыцця ў вольным свеце мы на ўласным досведзе ўпэўніліся, што ў любых умовах і пры любым раскладзе свабода заўсёды лепш несвабоды.

Айцец Вячаслаў распавёў пра парафію Святой Эўфрасінні Полацкай БАПЦ у Менску. Праз адсутнасць свайго храму і дзяржаўнай рэгістрацыі дзейнасць парафіі носіць вандровачны паўлегальны характар. Святары БАПЦ у Беларусі раз’язджаюць па краіне, адпраўляючы службы і задавольваючы рэлігійныя патрэбы вернікаў у часова прыстасаваных памяшканнях. Але як святарства, так і вернікаў на Бацькаўшчыне натхняе дзейнасць БАПЦ на чужыне, дзе Царква мае храмы, а культурныя цэнтры беларусаў замежжа вядуць паўнавартаснае, годнае вольнага чалавека духоўнае жыццё.

Пасля скančэння дзеі ля Крыжа грамада няблага падсілкавалася за багата накрытым агульным сталом пад зялёным парасонам дрэваў Прошчы.

**Паводле Алеся Ката**

# СТВАРАЛЬНІК ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКІ KAMUNIKAT.ORG СУСТРЭЎСЯ СА СЛОНІМЦАМІ І ВІЦЯБЛЯНАМІ

Стваральнік і адміністратар беларускай інтэрнэт-бібліятэкі Kamunikat.org Яраслаў Іванюк разам з беларускім бардам Віктарам Шалкевічам наведалі Слонім і Віцебск, сустрэліся з журналістамі і чытачамі “Газеты Слонімскай” і зладзілі невялікі канцэрт у віцебскім арт-пабе “Торвальд”.




Яраслаў Іванюк пазнаёміў слонімцаў з інтэрнэт-бібліятэкай, распавёў пра яе дзейнасць і як ёю карыстацца, якія перыядычныя выданні, кнігі, запісы і г.д. сёння знаходзяцца на Kamunikat.org. Госць з Беластока шчыра падзякаваў рэдакцыі “Газеты Слонімскай” і “Слонімскага краю” за паразуменне і за тое, што своечасова дасылаюцца свежыя нумары гэтых выданняў на сайт. Яраслаў Іванюк таксама адказаў на шматлікія пытанні журналістаў.

Сустрэчу аздобіў бард Віктар Шалкевіч, які весяліў гасцей сваімі песнямі і цікавымі жыццёвінкамі.

А праз некалькі дзён Яраслаў Іванюк распавядаў пра назапашаныя за час існавання інтэрнэт-рэсурса Kamunikat.org 40 тысяч беларускіх публікацыйужо віцяблянам:

– Гэта творы як сучасных аўтараў, так і тых, што ўжо адышлі ў вечнасць, але іх творы застаюцца важнымі для беларускай літаратуры. Асноўны крытэрый – гэта мае быць па-беларуску, або на іншых мовах – пра Беларусь.

Многія жыхары Віцебска ведаюць пра існаванне Kamunikat.org, многія карыстаюцца зборамі гэтага рэсурсу, на якім ёсць і выданні з Віцебшчыны. У тым ліку паэтычны зборнік Георгія Станкевіча – настаўніка, журналіста і барда з Бешанковічаў. Ён падкрэслівае вялікую значнасць працы, зробленай Яраславам Іванюком і ягонымі калегамі:

– У адным месцы сабрана столькі літаратуры, якую цяпер лёгка шукаць! Гэта неацэнны рэсурс. Гэтая праца чалавека, які задумаў, жывучы ў Польшчы, зрабіць для Беларусі такі шыкоўны падарунак вартая найвышэйшай узнагароды.

Сустрэча завяршылася выступам барда Віктара Шалкевіча. У Віцебску ў яго шмат сяброў і ўдзячных слухачоў.

**Паводле Ганны Ліпкі і Аксаны Шпак, “Беларускае Радыё Рацыя”**

навіны

# "ЗАЛАТАЯ ПЧОЛКА" – СУЗОР'Е ТАЛЕНТАЎ

Лізавета Глубінец, актывістка моладзевага аддзялення Самарскай абласной грамадскай арганізацыі беларусаў і выхадцаў з Беларусі "Руска-Беларускае Братэрства 2000" стала лаўрэатам XVIII Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка", які праходзіў з 23 па 26 мая ў Клімавічах.



Фота на памяць: Ала Фёдараўна Асмалоўская, куратар самарскіх беларусаў і Кацярына Мікалаеўна Данілкіна, мама Лізы

"Залатая пчолка" за гады свайго творчага развіцця з рэгіянальнага Фестывалю дзіцячай творчасці ператварылася ў маштабны Міжнародны праект, у якім штогод бяруць удзел юныя таленты з блізкага і далёкага замежжа. У Форуме гэтага года свае творчыя дасягненні прадэманстравалі звыш за 700 адораных дзяцей з 8 краін – Беларусі, Балгарыі, Латвіі, Расіі, Сербіі, Славакіі, Украіны і Узбекістана. Ад "Руска-Беларускага Братэрства 2000" годна прадставіла Самарскі рэгіён Лізавета Глубінец, выступіўшы у фінальным этапе.

Лізавета Глубінец даўно марыла наведаць Беларусь. Ведаючы пра запаветную мару дзяўчыны, прэзідэнт "Руска-Беларускага Братэрства 2000" Ірына Глуская вырашыла адправіць заяўку на ўдзел Лізы ў завочным адборачным туры конкурсу-фестывалю. І, як аказалася, не дарма...

– Ад імя аргкамітэту XVIII Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка" наша зорачка – Лізавета – атрымала запрашэнне да ўдзелу ў вочным фінальным туры конкурсу ў жанры "Вакальнае мастацтва". Я перакананая, што паіншаму і быць не магло, бо Ліза – выхаванка таленавітага педагога вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі па класе эстраднага вакалу МБУ ДО ЦВО "Творчество" Іны Сухачэўскай, мастацкага кіраўніка беларускага вакальнага ансамбля "Каданс". Іна Ігараўна ўкладае ў кожнага вучня часцінку сваёй душы і цеплыню свайго сэрца. Таму і запрашэнне Лізы на творчы Форум у Клімавічы, безумоўна, таксама і яе заслуга як педагога. Асаблівы ўнёсак у ажыццяўленне Лізінай мары ўнесла яе мама Кацярына Данілкіна, якая ўзяла на сябе ўсе транспартныя выдаткі, – распавядае Ірына Міхайлаўна.

Кацярына Мікалаеўна заўсёды падтрымлівае сваю таленавітую дачку і ў далёкія творчыя паездкі выпраўляецца разам з ёй. Так было і ў маі 2016 года, калі Ліза ўдзельнічала ў XIX Міжнародным фестывалі "Союз талантов России" ў Сочы, на якім юная спявачка заняла ганаровае трэцяе месца. Не стала выключэннем і падарожжа ў Беларусь.

– Калі Ірына Глуская патэлефанавала мне і прапанавала прадставіць дачку ў праграме завочнага адборачнага тура Міжнароднага фестывалю дзіцячай творчасці "Залатая пчолка", я без асаблівых роздумаў пагадзілася, бо для Лізы гэта новы вопыт і магчымасць прадэманстраваць свой творчы патэнцыял. Яна і ў дарогу нас выпраўляла. Ведаючы пра мару Лізаветы наведаць Беларусь, яна ўсебакова садзейнічала ў яе ажыццяўленні... Пачынаючы ад выбару конкурсных нумароў на адборачны тур і падачы заяўкі, аплаты фестывальнага ўнёску, падрыхтоўкі прэзентацыі і самарскай сімволікі, сцэнічных беларускіх касцюмаў, і заканчваючы падрыхтоўкай сувеніраў для беларускага боку, – не хаваючы сваіх эмоцый, распавядае мама Лізы.

Фестываль "Залатая пчолка"... Каласальная насычанасць мерапрыемствамі, шквал эмоцый, сузор'е талентаў і нястрымнае жаданне адораных юнакоў – перамагчы... Але прадстаўніца беларусаў самарскай зямлі Лізавета Глубінец – настойлівая, і, нягледзячы на даволі працяглую дарогу, яна годна выступіла ў конкурснай праграме і заняла ганаровае другое месца ў жанры "Вакальнае мастацтва", намінацыі "Саліcты. Эстрадныя спевы", у сярэдній узроставай катэгорыі 13–15 гадоў. Ва ўрачыстай абстаноўцы Лізавеце быў уручаны Дыплом лаўрэата 2 ступені і каштоўны падарунак.

– Для конкурснай праграмы былі абраны два эмацыйныя творы – узрушвальная з-за сваёй глыбіні і зместу песня "Снег" (словы і музыка Алены Ваенгі) і нявыдуманыя гісторыя, якая зрабілася песняй "Помнят люди" (словы Яўгена Далматоўскага, музыка Оскара Фельцмана). Гэты год для Беларусі асаблівы – наша гістарычная радзіма адзначае 75-годдзе вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. І песня "Помнят люди" стварыла асаблівую атмасферу ў глядзельнай зале... Бо ў ёй ідзе гаворка пра сяброўства паміж народамі, калі беларуская дзяўчына ратуе ад фашыстаў савецкага разведчыка родам з Грузіі. Гэтая тэма для беларускіх гледачоў вельмі блізкая, – перакананая Іна Сухачэўская.

Кажуць, што поспех прыходзіць да тых, хто гатовы пачаць з малога і старанна працаваць... Творчасць Лізаветы Глубінец пацвярджае гэта. З дзевяцігадовага ўзросту яна займаецца вакалам. Выступае сольна і ў складзе ўзорнага дзіцячага вакальнага ансамбля "Очарование" МБУ ДО ЦВО "Творчество", ансамбля-спадарожніка заслужанага беларускага вакальнага ансамбля "Каданс". У яе рэпертуары рознахарактарныя творы сучасных беларускіх, рускіх, украінскіх, армянскіх кампазітараў, апрацоўкі народных песень, перакладанні музыкі беларускіх, рускіх і замежных класікаў, фальклорная і духоўная музыка. У творчай скарбонцы Лізы больш за 60 Дыпломаў лаўрэата, узнагародныя статуэткі, медалі і шматлікія фестывальныя падарункі.

У гэтым годзе Ліза паспяхова скончыла 9 класаў агульнаадукацыйнай школы №91 гарадской акругі Самара. Цяпер яна наведвае майстар-класы і курсы па сумежных профілях – сцэнічная мова, візаж/грым і плануе працягнуць вучобу на аддзяленні "Эстрадны вакал" у Самарскай музычнай вучэльні імя Д. Г. Шаталава.

Мы ад усёй душы жадаем таленавітай Лізавеце Глубінец новых вяршынь, поспехаў на іспытах пры паступленні ў музычную вучэльню, а "Залатая пчолка" няхай стане для яе яшчэ адным добрым трамплінам у творчую будучыню...

**Мікалай Бойка,**
**"Руска-Беларускае Братэрства 2000"**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ЧЭРВЕНЬ 2019 ГОДА

1 чэрвеня – 585 гадоў таму, у 1434-м, памёр вялікі князь і кароль Ягайла.

1 чэрвеня – 65 гадоў таму, у 1954-м, нарадзіўся Алесь Асташонак, пісьменнік.

2 чэрвеня – 150 гадоў таму, у 1869-м, нарадзіўся Канстанцін Валасовіч, геолаг, географ, хімік.

4 чэрвеня – 35 гадоў таму, у 1984-м, памёр Язэп Пігулеўскі, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне, Бразіліі і Парагваі.

6 чэрвеня – 85 гадоў таму, у 1934-м, памёр Браніслаў Эпімах-Шыпіла, мовазнавец, літаратуразнавец.

13 чэрвеня – 185 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Канстанцін Вераніцын, літаратар.

13 чэрвеня – 160 гадоў таму, у 1859-м, нарадзіўся Канстанцін Горскі, кампазітар.

13 чэрвеня – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Павел Жаўрыд, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстання.

13 чэрвеня – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Павел Трамповіч, лекар.

16 чэрвеня – 185 гадоў таму, у 1834-м, нарадзіўся Аляксандр Ельскі, гісторык, этнограф, пісьменнік.

16 чэрвеня – 20 гадоў таму, у 1999-м, памёр Мікола Нікан, настаўнік, вайсковец, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Аўстраліі.

17 чэрвеня – 65 гадоў таму, у 1954-м, памёр Барыс Мікуліч, пісьменнік.

18 чэрвеня – 130 гадоў таму, у 1889-м, нарадзіўся Уладзімір Каліноўскі, грамадска-палітычны дзеяч.

19 чэрвеня – 95 гадоў таму, у 1924-м, нарадзіўся Васіль Быкаў, народны пісьменнік Беларусі.

19 чэрвеня – 55 гадоў таму, у 1964-м, забіты Вітольд Дзіско, мастак.

20 чэрвеня – 55 гадоў таму, у 1964-м, памёр Пётр Сыч, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Вялікабрытаніі і Нямеччыне.

21 чэрвеня – 155 гадоў таму, у 1864-м, нарадзіўся Аляксандр Сержпутоўскі, этнограф і фалькларыст.

24 чэрвеня – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Вільні адбыўся Устаноўчы з'езд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

25 чэрвеня – 45 гадоў таму, у 1974-м, памёр Янка Рамановіч, мастак.

26 чэрвеня – 200 гадоў таму, у 1819-м, памёр Францішак Нарвойш, асветнік, філосаф, матэматык.

26 чэрвеня – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Антон Адамовіч, гісторык, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і ЗША.

27 чэрвеня – 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Сяргей Знаёмы (сапр. Сяргей Клопаў), пісьменнік.

27 чэрвеня – 100 гадоў таму, у 1919-м, расстраляны Міхаіл Буклярэвіч, грамадскі дзеяч.

27 чэрвеня – 30 гадоў таму, у 1989-м, у Мінску прайшоў Устаноўчы з'езд Таварыства Беларускай Мовы імя Францыска Скарыны.

29 чэрвеня – 85 гадоў таму, у 1934-м, памёр Эдуард Пякарскі, лінгвіст, этнограф, географ.

30 чэрвеня – 50 гадоў таму, у 1969-м, памёр Міхайла Грамыка, пісьменнік, вучоны.

**Беларусы ў свеце**
№ 5 (204), май 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12